Цана нумару 3000 м. п.

# СЬЦЯГ НАРОДУ

аднаднёўка

Вільня, Чацьвер, 23-га жніўня 1923 г.



## Перад новым школьным годам.

Лета падыходзе да канца. Перад намі—восень з яе неадступным пытаньнем для кожнага бацькі:

— **„Дзе і як вучыць дзяцей?“**

Пытаньне гэтае асабліва вострае і балючае для нас, беларусаў,—і гэта зусім зразумела. Зразумела, бо—кажучы каротка — мы аказаліся пад уладаю Польшчы зусім **пазбаўленымі школы ў роднай мове**.

А побач з гэтым ідзе нешта яшчэ горшае: мы пазбаўлены наагул магчымасьці вучыцца.

Справа ў тым, што за дзяржаўныя грошы, якія ў пастаці ўсялякіх падаткаў плоцім польскаму скарбу і мы, беларусы, польская ўлада адкрывае на нашай зямлі **выключна** школы з **польскай** выкладовай мовай. **А ў** польскія школы, дзе нашых дзяцей ня вучаць, а... „перарабляюць у палякоў“, беларускае сялянства дзяцей **не пасылае**.

Нам вядомы факты, пададзеныя да ведама і нашым паслом, і польскаму ўраду, што ў іншай польскай школе сядзяць дзьве вучыцельскія сілы, а ходзіць у яе ўсяго... пяцёра беларускіх дзяцей!

І зусім зразумела і справядліва жаданьне нашага народу мець школу ў роднай мове, што дапускае нават... польская канстытуцыя,—нажаль, толькі на паперы! Зусім справядліва і тое, што нашае сялянства ня йдзе ў чужацкую школу.

Але, прымаючы ўсё гэта пад увагу, немагчыма згадзіцца з тым, што **тысячы дзяцей астаюцца бяз вучэньня наагул.**

З гэтым трэба змагацца: **вучыцца трэба за усялякую цану**,—ведама, **апрача цаны запрадаваньня сваей нацыянальнай душы**!

Справа навукі ў сярэдняй школе стаіць у нас даволі добра, раўнуючы да пачаткавых школ. Побач з Віленскай Беларускай Гімназіяй, што йдзе наперадзе ўсіх, маем беларускія гімназіі ў Гарадку, Наваградку, Несьвіжы, Радашкавічах.

За тое бацьком, што хочуць аддаць дзетак у пачаткавую школу, ды ня страціць на вечныя часы сваіх сыноў і дачок, якія ў чужой школе губляюць усялякую сувязь з роднай хатай і з сваім народам, — для такіх бацькоў нямашака куды ткнуцца.

З пачаткам сёлетняга школьнага году мы і павінны распачаць энэргічную кампанію за заваяваньне беларускае народнае школы, за правядзеньне ў адносінах да беларусаў пастановы польскае констытуцыі аб праве нашага народу вучыцца ў роднай мове. У гэтай кампаніі павінны прыняць самае гарачае ўчасьце ўсе жывыя сілы нашае вёскі.

Трэба церш за ўсё **арганізаваць збор подпісаў пад заявамі ўладзе** (школьным інспэктарам) **аб жаданьні насяленьня мець беларускую школу**, падаўшы точны сьпісак дзяцей, якія будуць вучыцца.

Копіі такіх заяваў трэба адначасна **пасылаць Беларускаму Пасольскаму Клюбу** ў Варшаву (у Сойм). Гэта патрэбна затым, каб перад усім сьветам давясьці эндэцкую брахню, быццам беларусы „ня хочуць“ мець школы ў роднай мове.

Адначасна трэба парупіцца, **каб дамаганьні вёсак зацьвярджалі Гмінныя Рады**, у якіх шмат дзе (калі там сябры выбарныя, а не па назначэньню польскае ўлады) ёсьць ужо сьвядомыя беларусы, каторыя справу правядуць.

Ведама, нельга сказаць, ці усё гэта пры эндэцка-хіенскім урадзе дасьць нейкую рэальную карысьць **зараз-жа**; мо' і сёлета ўрад не дапусьціць адкрыць ніводнае беларускае школы, як не дапусьціў летась. Але без такіх народных выступленьняў ня можа быць надзеі, што справа хоць калі палепшыцца. **Чаго не даб'емся сяньня, таго можа дасягнем праз год**, і чым больш энэргічна, чым больш цьвёрда будзем дамагацца зьдзейсьненьня нашага права, тым больш надзеі на нашу перамогу.

Дый гэта ня ўсё.

Надовечы, як мы даведаліся, прадстаўнікі Нясьвіскай гімназіі былі ў пана Куратара ў Бярэсьці, просячы аб аднаўленьні на бягучы год концэсіі. Пан Куратар прыняў іх просьбу вельмі няпрыхільна і раіў, каб, замест вясьці гімназію, ў якой вучняў ня шмат, лепей **кожны вучыцель сабраў-бы дзесяць дзяцей і вучыў-бы іх прыватна**. На гэта ня трэба і ніякага пазваленьня!

З гэтае рады пана берасьцейскага Куратара мы і павінны карыстаць па вёсках дзеля вучэньня нашых дзетак у роднай мове — пабеларуску, калі ўлада не дае дазволу на адкрываньне беларускіх пачаткавых школ. **Дзесяць бацькоў напэўна здолеюць забясьпечыць утрыманьне вучыцелю,** які возьмецца вясьці так-званы „камплект“.

Дый вучыцялёў, якія могуць вучыць, у нас па вёсках хваце: абы толькі **не баяліся** рабіць тое, што дазволена законам.

Дый які-ж на сьвеце закон можа лічыць навуку—„грахом“?!

Вось, няхай нашы беларусы ня трацяць дарма часу, а неадкладаючы возьмуцца за тое, каб і на гэты год іх дзеці не бадзяліся дзікунамі бяз школы і вучэньня. Мо для некага і карысна, каб сярод нас было чымбольш няграматных,—але для нас гэта—**найвялікшае няшчасьце.**

Змагаймася-ж з ім дружна, і перамога будзе наша!

**Ст. Мірскі.**

## „Triumfuje Białoruś!..“

*„Daremne żale! Próżny trud!*
*„Zbyteczne złorzeczenia!—*
*„Minionych kształtów żaden cud*
*„Nie wróci do istnienia!“*
*Adam Asnik.*

Колькі найлепшых пачуцьцёў і самага запраўднага нацыянальнага энтузыязму, колькі палітычнага розуму і адміністратыўнага таленту, колькі забойча-тонкага, неабмыльна-вернага рашчоту ўложана было „прыроджаным гаспадаром“ Заходняе Беларусі ў вядомы, гэніяльна-просты плян—распладзіць на сьпіне беларускага народу, пад яго кашуляй,—тое сьвярблівае супакойнае жыцьцё мясцовага жыхарства, „жывёлы“, таго польскага „казацтва“, якое завецца „асадніцтвам“...

Колькі гэтак патрэбных для безнадзейна-шуканай „буджэтнай раўнавагі“ народных мільярдаў было патрачана на зьдзейсьненьне і падтрыманьне гэтага гэніяльнага пляну...

Колькі, з другога боку, найгоршых, але справядлівых пачуцьцёў было разбуджана і ўскормлена ў сэрцы беларускага народу,—гэткім пэратварэньнем суседа-паляка, брата земляробаў жываеда-асадніка...

Колькі лепшых надзей беларускага народу было прынесена ў крывавую ахвяру на аўтар сьвяткаваўшай свае нарадзіны Польскай Дэмакрат. Рэспублікі...

Здавалася-б, што гэты „абаронны вал“, гэны „роў дэфэнзывы“—ад „усходняе небясьпекі“—былі насыпаны і выкапаны надта добра...

Здавалася, што гэтыя „асяродкі„ ці „расаднікі“ гэныя „жывёлы“, выбачайце,—польскае культуры былі ўгрунтованы яшчэ мацней...

Адным словам, здавалася—давай толькі гэтым „расаднікам“—асаднікаў, па 50 мільярдаў у месяц, маючы на ўвазе няхібны спадак маркі...—і паны Скульскія і Студніцкія могуць быць зусім спакойны: шмат раней, як за 50 гадоў ад беларусаў у Беларусі не застанецца нават духу!..

Але-ж вось паслухайце,—што-ж сталася...

Ня дзе-нібудзь,—не ў якім там зайздросна-лявіцовым органе, па дрэннай прафэсіі заўсёды шальмуючым ахвярную дзеяльнасьць „Богам і Айчызнай“ пазванага да ўлады „rządu większości narodowej“, але ў самой „урадовай“ „Газэце Варшаўскай“, надрукована стацьця, з якой зусім, як сьвет, ясна, што—як для польскага оптымізму, гэтак сама і для беларускага пэсымізму няма рашуча ніякіх падставаў...

Гэтую цікаўную стацьцю, надрукаваную ў № 213 паказанай газэты, мы і павінны ўявіць нашым чытачом.

Робім гэта якнайкарацей, па магчымасьці—з захаваньнем яе букету...

Перш-на-перш аўтар адразу кажа, што „лявіцовая“ польская ўлада ад пачатку прышла ў Беларусь дзеля таго і рабіла ўсё тое, каб зьнішчыць у Краі не беларускі элемэнт, але польскі... Гэта і было галоўнай папыткай усяе крэсовае палітыкі... Вось табе і маеш, а мы ўсе думалі, што „лявіцовая ўлада“ толькі гаварыла пекныя словы, а рабілася заўседы тое самае, што робіцца цяпер,—каб выкараніць беларуса з Беларусі... Польскай уладзе трэ' было адразу... „падтрымаць на Крэсах większą własność ziemską“... гэта значыць—абшарнікаў... Гэта—дзеля таго, што ўсялякая іншая зямельная палітыка на Крэсах, якія-б „польскія мэты“ яна сабе ня ставіла, асуджана на загібель.

Ня можна ня прызнаць, што гэтае разважаньне, надыктэванае страхам гінучых абшарнікаў, маець самыя важныя падставы. Запраўды ёсьць ад чаго прыйсьці да адчаю: адзінае срэдства ёсьць на сьвеце, каб захаваць на „Крэсах“ польскі характар зямельнай уласнасьці, абараніць польскі элемэнт ад паглыненьня яго беларускім элемэнтам,—гэта... захаваць нятыкальна на Крэсах гэткія магнацкія „польскія двары“, як—Радзівілаў, Браніцкіх і падобныя.

Усялякія іншыя „асяродкі“і „расаднікі“, як слушна кажа аўтар, асуджаны „на растварэньне ў народным беларускім моры“. Але-ж нажаль, і ў гэтым—галоўная трагэдыя „польскосьці“ на „Крэсах“...—нажаль—гэтае адзінае на ўсім сьвеце срэдства сталася немагчымым... Аўтар даводзе, што віна ў гэтым—кепскай палітыкі,—„левіцовай адміністрацыі“... Мы ведаем, што справа тут—шмат глыбей... Але—па розных прычынах—срэдства гэтага ня было і няма... І вось...—„спасярод вялікай зямельнай уласнасьці пачалася нябывалая паніка... абшарнікі пачалі на гвалт пазбывацца зямлі... 85 процэнтаў вялікай уласнасьці знаходзіцца ў стане поўнай ці частковае ліквідацыі“... „Катастрофа ня была-б яшчэ гэтак страшнай, калі-б зямлю гэтую дарогай парцэляцыі куплялі палякі. Але-ж нажаль гэтая зямля гуртом перадхозіць у рукі беларусаў, якія наагул варожа настроены да ўсяго, што толькі польскае“... Бяз сумліву сам Мураўёў не нарабіў столькі бяды польскаму ўладаньню на Крэсах, як... „жонды“ тутэйшых левіцовых рэфэрэнтаў“, кажа аўтар...—як нарабілі самі палякі, паправім мы...

Сама „сувэрэнная“ польская ўлада з мертвых паўстаўшае Польшчы забіла на Крэсах сваю „польскасьць“ ляпей са самаго Мураўёва!...—вось які забойчы вывад робіць аўтар...

Вывад зусім слушны, можна толькі яго яшчэ пашырыць, не абмяжоўваючы яго аграрным пытаньнем, і—дадаць толькі, што, як выходзе з фактаў, прывезеных аўтарам, ніякай іншай зямельнай палітыкі ў напрамку пажаданьняў эндэцкага аўтара ніякая ўлада на Крэсах вясьці-б не магла.

Польскае вайсковае асадніцтва на Крэсах зьяўляецца прадпрыемствам бязумоўна няўдалым, як у сэнсе эканамічным гэтак сама і з боку нацыянальна-палітычнага. „Галоўнай мэтай вялікай часьці асаднікаў зьяўляецца, як трафна кажа аўтар,—„штось уха-

піць", „штось зьліквідаваць", і „злажыўшы манаткі, ўцячы", (zwiać). „З гэтае прычыны асадніцтва з эканамічнага боку, зьяўляецца аднымаграмадным нулём, калі не вялізарнай шкодай"? „Няварта радавацца і з нацыянальна-палітычнай вартасьці гэтага прадпрыемства. Выбары ў цяперашні Сойм паказалі ў поўнай меры, што вялікшая большасьць асаднікаў, гэта ўсе—вызваленцы, якія галасавалі ў паражаючай еднасьці з беларусамі—за рознымі Галавачамі, Аўсянікамі ці Галкамі... Відаць з таго, што з гэтага боку чакаць падтрыманьня польскасьці на Крэсах няма чаго". „Можна наадварот цьвярдзіць, што слабыя матар'яльна, кінутыя на волю лёсу нашыя асаднікі ў блізкай прышласьці патануць у беларускім моры"... „Наша гісторыя вучыць нас, што беларуская срэда, грамада, (слухайце, браты—беларусы!) мае невычарпальную сілу асыміляцыі, паглыненьня ў сабе чужых элемэнтаў".

Куды дзелася, горка ўздыхае аўтар, тая многалікая польская шляхта, якая калісь так шумела на ўсялякіх „сойміках"!?—Няма ад яе нат' сьлядоў!.. Засталіся ад яе толькі ўсяго адны... польскія прозьвішчы ў шмат каго з зусім добрых, запраўдных беларусаў... „Гэтая польская шляхта ўстала проціў русіфікацыі, але-ж беларуская грамада праглынула ўсю пасыўную масу гэтае польскае шляхты"...

Ад гэтае асыміляцыі асталіся толькі... „вялікія двары"—толькі магнацкія роды абшарнікаў...

Значыцца, — польскай палітыцы і гістарычнае прошлае і інтарэсы цяперашняга часу катэгорычна ўказваюць адзіны толькі шлях да захаваньня польскасьці на Крэсах...—Гэта — захаваньне і падтрыманьне абшарнікаў!.. Але-ж, ізноў паўторым: нажаль, па прызнаньню самае-ж „урадовае" газэты, гэты шлях... на 85% закрыты—завалены і па ім ужо мяма ніякога праезду... Бо, як добра мусіць ведаюць самі паны—абшарнікі, няма той сілы ў сьвеце, якая-б магла спыніць гэты над'звычай карысны для абшарнікаў, хаця і з вялікім „дакладам" з боку купляючага зямлю сялянства, загадзя „дыскантуючы" ўсё толькі пагражаючую „зямельную рэформу", а можа нат' прадугледжываючы штось яшчэ горшае, рух „парцэляцыі"... Акурат тыя асаднікі і абшарнікі сьпяшаюцца „штось ухапіць", „штось зьліквідаваць"—„zwiać", карыстаючы з часу...

„Гэтыя двары, кажа аўтар, былі калісь „магутнымі фортэцамі" (цьвярдынямі) польскасьці ў Краі"...

Але-ж гэтыя часы мінаваліся і ня вернуцца ўжо ніколі...

Адбудаваць гэныя „фортэцы", вярнуць гэтыя „сьвятыя" часы—пустая думка тых жывых нябожчыкаў, што маюць ужо толькі нагэтулькі сілаў, каб... пісаць сабе нэкралёгі.

І ляпей за усё аб гэтым сьведчыць сам польскі „жонд", які, як кажа аўтар, сам вядзе барацьбу, разбураючы гэтыя „фортэцы", а з імі разам і адзіныя падставы польскасьці на Крэсах..."

У канцы—праз некалькі гадоў, калі ня буде зьменена ўся гэтая палітычная сыстэма (мы чулі ад яго-ж, што гэта—немагчыма!...), дык ў грузалкі рассыплюцца гэтыя фортэцы і

**„Затрыумфуе Беларусь"!...**

Амэн, пабожна дабавім мы,..

Мы відзім, што „Беларусь затрыумфуе" ужо дзеля таго, што за яе сама прырода. Беларускі народ мае вялікую сілу дзеля таго, што ён жыве ў сябе дома на сваёй зямлі, дзе жылі яго дзяды і прадзеды... мае вялікую неперамножную моц дзеля таго, што сядзіць на сваёй зямлі вялікай Грамадой...

Гэтую адналітную Грамаду чужынцы хочуць разьдзяліць, разьбеларусіць усялякімі спосабамі...

І няхай Беларускі народ добра ўцяміць, што, калі за Беларусь прырода, ды калі яшчэ за Беларусь, за сваю Бацькаўшчыну ўстане і будзе і сам беларус—нятолькі, як этнографічная жывёла, як народнае мора, але і як сьвядомы нацыянальна, духова аб'яднаны, культурна арганізованы **народ**, дык—ні сьпіхнуць яго з роднай зямлі, ні зьесьці яго ніякімі там „асаднікамі" ці іншымі хітрымі спосабамі—ніякая моц на ўсім сьвеце ня зможа...

Тады запраўды—**„Затрыумфуе Беларусь".**.

**Суліма.**

# Польскі фашызм.

Італьянскі фашызм зламаў і стаптаў дэмакратычнае выбарнае права. Італьянскі парлямэнт зложаны з ворагаў і здраднікаў працоўнага народу прыняў выбарную рэформу, якая ідзе ў разрэз інтарэсаў працоўных.

Рэформа гэтая дужа прыпала наўспадобу і польскім фашыстам. Хьена захлібаючыся пяе хвалебныя гімны Мусолінаўскім гадунцом на шпальтах „Rzeczypospolitej". „З італьянскай зямлі плывець на змучаны, знэрваваны пасьля ваеннай завірухі сьвет, плывець сьвежы, жыцьцёдаўчы, творчы павеў. Знамянітая пабеда, якую ў апошнія часы адтрымаў Мусоліні над проектам выбарнай рэформы, стварыла новае павялічэньне сіл гэтага павеву і ізноў цэлы сьвет зьвяртаецца да Італ і, адкуль ізноў чуваць голас адраджэньня, ідуць новыя праўды, плывець новая вера".

Але польскія паны ня толькі хваляць але і стараюцца ісьці сьлядамі італьянскіх фашыстаў да адабраньня правоў у працоўных. Уся Польшча ўкрыта тайнымі арганізацыямі фашыстаў. Галоўная спаміж гэтых арганізацый ёсьць „Zakon Faszystów" якая ставіць сабе за мэту вясьці барацьбу без кампрамісаў і агаворак з чужымі элемэнтамі, як беларусы украінцы, жыды і іншыя, а таксама з соцыялістамі і арганізацыямі працоўных.

„Без фашызму Польшча, як незалежная дзяржава ня можа існаваць", катэгорычна заяўляе гэты „Zakon" і вядзе сваю гібельную працу сярод моладзі і несьвядомай масы і гуртуе свае сілы каб ударыць на лявіцу з поўнымі сіламі з надзеяй на пэўную пабеду.

„Bóg i ojczyzna!" крычаць польскія фашысты і ідуць крывавым поступам на „cudze żywioły", якімі для іх зьяўляюцца працоўныя і нацыянальныя меншасьці, іцуць чорнай табалой, а хрысьціянская дэмакратыя высьцілае ім дарогу дыванамі і набожна кладзе крыж на свае сытае цела.

**Ж.**

# Горкая праўда.

Фашызм у Польшчы ап'янеў ад нечаканых удач і пабед ды закруціў такую крутуху, такі пыл, што ажно сталі чыхаць самі яго тварцы.

А да тварцоў фашызму трэба аднесьці і пана Язэпа Пілсудскага, які за ўвесь час свайго панаваньня рабіў уступкі і ўгоду вялікім паном, а працоўны народ і прыгнечаныя нацыянальнасьці ашуківаў пустымі абяцанкамі, аж пакуль урэшце не давёў да хьена-пястоўскага раю, ў якім лодзінскія рабочыя ўжо ядуць сабачыну.За гэтыя заслугі Пілсудскага паны надзялілі яго тытулам маршалка, а як самі ўмацаваліся, дык дзелавіта, нават бяз трыумфу пабеды, адкінулі яго, як выціснутую цытрыну. Ганебная і марная доля! Магчыма, што як фашыстам патрэбна будзе мець караля, дык так называемы соцыяліст Пілсудскі ім можа зноў падыйсьці і яны зноў пагодзяцца. А чалавек гэты меў уладу ў сваіх руках і каб быў сапраўдным соцыялістам, дык перадаў-бы яе ў рукі рабоча-сялянскія, а не эндэцкія.

Польскі фашызм--грозны вораг польскаму рабочаму і нацыянальным меншасьцям. Ні ў парлямэнце, ні на газэтных шпальтах не пабіць, не паканаць фашыстаў; ні ўгаворамі, ні перагаворамі ня вырваць ужо Польшчы з кіпцяў фашыстаў, якія хочуць стварыць другія Таргавіцы, калі шляхта паўстала супроць абвешчанай констытуцыі і прадала сваю дзяржаву суседнім царом, бо гэта ёй было выгадна, гэта было карысна для яе кішані.

Але што будзе з Польшчай, як з дзяржавай, нас гэта мала цікавіць,—мы стаім на стражы інтарэсаў працоўнага народу як беларускага, польскага і іншага.

Мы павінны ад'значыць той факт, што ўнутраная разруха дзяржавы, ў якой мы апынуліся і скразьнякі з Нямеччыны, якія праходзяць праз нас на Ўсход, прадвяшчаюць паважныя падзеі ў гэтай дзяржаве.

Да гэтых падзей мы павінны быць прыгатаваны, павінны быць арганізаваны ў дружную працоўную грамаду, каб на выпадак якой завірухі зноў не захапіў улады вораг працоўных. Але тут трэба сказаць горкую праўду, што ў сэнсе арганізацыі ў нас бадай нічога ня зроблена. Праўда, што пры фашыстоўскім панаваньні трудна працаваць, трудна стварыць адналіты фронт працоўных, але затое гэтыя працоўныя, дзякуючы прасьледаваньням больш аб'яднаныя, вастрэй адчуваюць патрэбу супольнага выступленьня, лягчэй паддаюцца да арганізованнасьці, да выступленьняў у абароне сваіх інтарэсаў.

Беларускі народ цёмны і напоўсьвядомы, падзелены рознымі рэлігіямі аднак у часе выбараў у Сойм ясна даказаў сваё зразуменьне агульных інтарэсаў, даказаў сваю гатоўнасьць да арганізацыі, да барацьбы і выбіраючы сваіх прадстаўнікоў ён чакаў і чакае ад іх правадырства да лепшай будучыны. Беларускі народ здаў лёс сваім прадстаўнікам, якія мусяць сярод ускалмучанага мора буржуазнага палітыканства правясьці гэты народ да волі і зямлі, да ўлады працоўных. Роль вельмі адпаведная і пачэсная, за выкананьне яе—чэсьць і слава, а ў праціўным разе, калі народ ашукаецца, калі перад народам не апраўдацца, дык чакае страшны народны суд. Веліч гэтай ролі трэба ўразумець, уявіць, як сьвятасьць насіць у душы.

Хай будзе нам дазволена ў гэты час, калі адбіраюць нашу зямлю і губяць душу беларускага народу, запытаць нашых паслоў, што зроблена і што робіцца для самаабароны і для творчай працы сярод беларускага народу?

Ці нашым паслом вядома і ці прыняты якія меры супроць зьдзейсьненьня фашыстамі іхняй праграмы, вось яна: „Асьведамляць усіх польскіх патрыётаў, што сучасны выбарны закон ёсьць дрэнны і трэба дабівацца яго зьмены ў тым духу, каб у Сойм і Сэнат маглі быць выбранымі толькі праўдзівыя гаспадары гэтай зямлі, а не элемэнты чужыя. Тое самое трэба мець на ўвазе і да ўрадовых установ. Асьведамляць, што кіраўніцтва так вялікім апаратам, як ёсьць наша дзяржава (Польшча), ня можа быць у руках анальфабэтаў і дзеля таго даць права выбараў у Сойм толькі такім, якія кончылі ня менш 4-ры ўрадовыя клясы, а да Сэнату,—якія маюць вышэйшую адукацыю".

Значыць непавінна быць прадстаўніцтва ад нацыянальных меншасьцяў, і ад працоўных, якія дзякуючы панаваньню буржуазіі ня могуць кончыць нават і гэтыя 4-ры клясы.

Гэтая фашыстоўская пагроза павінна яшчэ цясьней аб'яднаць нашых паслоў з народам, аб'яднаць у адну сям'ю. Мінулая соймавая праца паказала бясплоднасьць сваю ў сэнсе паляпшэньня быту працоўных. Зразумела, што нашым паслом трэба зьвярнуць усю ўвагу на вёску, вярнуцца туды, адкуль самі вышлі, вярнуцца дамоў і ратаваць жыхароў гэтай хаты ад уплываў клерыкальных кругоў, буржуазнай угоды (пэпэсы), вырываць з кіпцяў польскіх фашыстаў.

Мітынгаваць на кірмашох дужа добра, але гэтага мала. Пасол, як нятыкальная асоба, можа і павінен шмат іншае рабіць—ён свабодна можа праводзіць арганізацыю сялянскіх і работніцкіх мас і можа адкрыта стаць на чале работніцкага руху.

З сорамам трэба прызнацца, што ў другой сталіцы Беларусі—ў Вільні да гэтага часу ніразу ня было справаздаўчага пасольскага мітынгу, што ў тэй-жа Вільні ёсьць аб'яднаных у прафэсыянальную арганізацыю да 40 тысячоў рабочых з добрай палавінай беларусаў і сярод іх няма нават беларускай культурнай сэкцыі.

Горкая праўда!

Мы спадзяемся, што тут бязумоўна ёсьць паважныя прычыны і чакаем апавяшчэньня іх ад паслоў.

Нас цікавіць таксама, што сталася са статутам „Сялянскага Саюзу", які быў аддадзены ў Пасольскі Клюб для зьлеганізаваньня яшчэ ў лютым месяцы гэтага году?

**Р. Юргілевіч.**



# Патрэбнасьць арганізованнасьці.

Кожнаму ясна, што палажэньне беларускага народу ў Польскай дзяржаве па свайму цяжкаму палажэньню ня можа знайсьці ніякага параўнаньня. Польскі „stan posiadania" ў Заходняй Беларусі складаецца з вялізных і меншых абшарнікаў, дробна-буржуазнага мяшчанства, шляхты, панаёхаўшых на дзяржаўныя пасады галіцыйска-пазнанскіх вураднікаў ды асаднікаў-колёністых.

Ўся гэта, ўзятая разам, ня так ужо й вялікая жменя польскага элемэнту напінае ўсе свае сілы, каб прыдаць нашаму краю свой польскі характар ды апраўдаць поўнае права Польшчы на валаданьне тою заходняю часткаю, заселенай вялізнаю масаю беларускага сялянства, тэрыторыі, якая дасталася Польшчы па трактату ў Рызе.

Моцны эканамічна польскі элемэнт нашае зямлі мае, пакуль што, бязумоўную перавагу ў тэй нацыянальнай барацьбе ў нас, якая ні для каго сакрэтам не зьяўляецца.

Палякі ў нас—паны палажэньня, мы, Беларусы—зносім нябывалы нацыянальны гнёт.

І гэта ясна для кожнага об'ектыўнага вока, хоць крыху дзіўным дзе-каму можа здацца, чаму гэта, хай сабе і ўпрывілеяваная і дужая эканамічна, меншасьць можа граць першую ролю ў жыцьці краю, абходзячы большасьць насяленьня з усіх бакоў.

Але-ж старою, як сьвет зьяўляецца тая простая праўда, што арганізованая меншасьць ніколі не баіцца самае паважнае большасьці, калі большасьць гэта саўсім неарганізована, альбо арганізована вельмі слаба.

Адсюль ясна, чаму гэта кучка моцна арганізованых ангельцаў (разумеецца пры падмозе ўсей сілы дзяржаўнага брытанскага апарату) можа панаваць над малаарганізованым хоць і вялізным па ліку насяленьнем Індыіі, ці іншых брытанскіх колёніяў.

Кожная гэткая колёнія непараўнальна вальней дыхала-б, будучы самастойным дзяржаўным арганізмам, чымся пад уладаю, хай сабе й даволі гуманных, брытанцаў.

Бо, даючы некаторыя азнакі аўтаномнасьці сваім колёніям з боку палітычнага, Англія зьяўляецца поўнаю валадарніцай колёніяльных багацьцяў і эксплёатуе адвечнае насяленьне колёніяў з эканамічнага боку так, як толькі яна адна рабіць гэта ўмее.

Калі прыраўняць Зах. Беларусь да якой-небудзь ангельскай колёніі, дык і то розьніца будзе гэткая, што прыдзецца толькі разьвясьці рукамі.

Вялізныя абшары зямлі палітае крывёю й потам працоўнага беларускага народу знаходзяцца ў нас у руках чужынцаў—свайго гатунку лёнд-лёрдаў, (як у Ірляндыі)—польскіх абшарнікаў, эканамічны гнёт якіх адчуваецца проста.

У той час, як зруйнованае вайною і зьвязаным з ёю ўцекачоўствам беларускае сялянства знае толькі ўрадовыя падаткі, якія ліха ведае з чаго ўзяць, і ня бачыла дасюль ніякай ўрадовай падмогі дзеля падняцьця на ногі разбураных гаспадарак,—у гэты самы час урадам кідаюцца мільярды марак на ўмацаваньне колёнізацыі (асадніцтва).

Тады, як кожная ангельская колёнія мае свае аўтаномныя палітычныя правы, народ наш у Польшчы пазбаўлены нават фактычнага карыстаньня лібэральнымі нормамі пісанай польскай констытуцыі.

Чаму-ж гэта так?

Дзе прычына таго, што навет свая ўласная констытуцыя, бяз ніякага ўдзелу беларусаў зложаная, не шануецца польскімі ўладамі?

Свае констытуцыйныя правы некалькімільённае беларускае насяленьне магло-б лёгка адстаяць толькі тады, каб яно так ці іначай, а было ўсё-ж такі арганізована, зьліта ў моцны нацыянальны масыў.

Раз правы нашыя топчуцца, дык за іх трэба бароцца, а кожная барацьба можа вясьціся толькі арганізованна.

